# 24 САКАВІКА ВЫБАРЫ Ў ВЯРХОЎНЫЯ СОВЕТЫ СССР І БССР

**ВЫБАРШЧЫКІ 599 ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ ПА ВЫБАРАХ У СОВЕТ САЮЗА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР, УСЕ, ЯК АДЗІН, АДДАВАЙЦЕ СВАЕ ГАЛАСЫ ЗА ВЕРНАГА СЫНА БОЛЬШЭВІЦКАЙ ПАРТЫІ, СЯМЁНА СЦЯПАНАВІЧА ІГАЕВА!**

# Сямён Сцяпанавіч Ігаеў

*(БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС)*

Працоўныя завода сельскагаспадарчых машын у Ломжы вылучылі сваім кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па 599 выбарчай акрузе Сямёна Сцяпанавіча Ігаева. Гэту-ж кандыдатуру вылучылі і служачыя дзяржустаноў. Сяляне ў вёсках, інтэлігенцыя ў горадзе з гатоўнасцю падтрымалі іх прапанову.

У гэтым аднадушшы закладзен пэўны сэнс. Назваўшы імя Ігаева, народ гэтым самым гаворыць аб сваёй любві і давер'і да партыі большэвікоў, бо Ігаеў адзін з першых комуністаў, прыехаўшых сюды з Совецкай Беларусі, каб дапамагчы насельніцтву вызваленай зямлі ламаць капіталістычныя парадкі, устанаўліваць доўгачаканую ўладу Советаў, вучыць і жыць па запаветах Леніна і Сталіна.

Ігаеў, як і многія партыйныя работнікі, носіць ваенную гімнасцёрку і мяккія боты. Ён ходзіць крыху ў развалку, гаворыць мала і лічыць за лепшае слухаць, прыжмурыўшы вочы з дабрадушнай хітрацой. Субяседнік бачыць у ім вельмі простага і добрага чалавека, без усякай рысоўкі і позы. І адчувае ў той-жа час, што яго не ашукаеш, што на сваім ён стаіць моцна і ад праўды, ад карысці справы не адступіць ні за што. Такім ведаюць яго беластоцкія тэкстыльшчыкі, актывісты вёсак, настаўнікі, партыйныя і совецкія работнікі.

Калі кандыдат у дэпутаты будзе расказваць аб сваім жыцці выбаршчыкам Ломжы, Снядова ці Граева, — яны даведаюцца, па якіх ступеньках паднімаюцца совецкія людзі з самых нізоў. Яны даведаюцца, што шлях большэвіка — гэта шлях беспярапыннай барацьбы і перамагання цяжкасцей, шлях вернага служэння высокай ідэі комунізма.

Сакратару Беластоцкага абкома партыі тав. Ігаеву 35 год. Ён нарадзіўся і вырас у сям'і селяніна-бедняка сяла Давыдаўкі, Пензенскай губерні. Дома ў яго не гаварылі па руску і ведалі толькі мардоўскую мову. У 1921 г. Паваложжа ахапіў голад. 17-гадовы Сямён Ігаеў рашыў пакінуць галодны край. Ішлі чуткі, быццам у Беларусі многа хлеба, і Ігаеў рашыў ехаць у Беларусь.

Марудна паўзлі паязды. Станцыі былі забіты саставамі, перагоны завеяны снегам. На станцыі Ражск у Ігаева ўкралі яго адзіны дакумент — даведку ад сельскага совета. Чапляючыся за падножкі вагонаў, начуючы на вакзалах Тулы, Калугі, Вязьмы, працягваў ён свой шлях. Каб пракарміцца — прадаваў вопратку. Паўтара месяца спатрэбілася, каб даехаць да Жлобіна. Адсюль Ігаеў пайшоў пешшу. Ён зайшоў на хутар каля вёскі Яспіна і тут наняўся да кулака Талкачова ў батракі — да Пакрова за 12 пудоў жыта. Днём працаваў у полі, ноччу пасвіў коней, спаў 2—3 гадзіны ў суткі. У канцы жніўня гаспадар разлічыў яго, даўшы замест умоўленай платы каравай хлеба на дарогу.

Пешшу Ігаеў дайшоў да Бабруйска і пераначаваў у гарадскім садзе, а назаўтра паступіў працаваць кур'ерам. Потым ён стаў



міліцыянерам, потым вучнем на складзе кааператыва. Тут Ігаеў пачаў наведваць комсамольскія сходы, уступіў у комсамол і праз год быў выбран сакратаром ячэйкі. А яшчэ праз год растучага актывіста заўважылі ў акрузе і камандыравалі ў Асіповіцкі раён у якасці сакратара райкома комсамола. Тут, у Асіповічах, у 1926 г. тав. Ігаеў уступае ў члены ўсесаюзнай комуністычнай партыі.

У тым-жа годзе Ігаева прызываюць у рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Ён — чырвонаармеец сапёрнага батальёна, малодшы камандзір, старшына.

Прайшоўшага вялікую школу ў Чырвонай Арміі Ігаева накіроўваюць затым на партыйную работу. Да 1930 г. ён ведае аддзелам агітацыі і прапаганды райкома партыі, а потым едзе ў Маскву на вучобу ў комуністычны універсітэт народаў Усхода імені таварыша Сталіна.

Тав. Ігаеў быў студэнтам апошняга курса, калі партыя адклікала яго з вучобы і паслала працаваць у ствараемыя тады ў сельскай гаспадарцы палітаддзелы.

І вось учарашні студэнт сталічнага універсітэта зноў у беларускай вёсцы. Ён — намеснік начальніка палітаддзела спачатку ў соўгасе «Комсомольская правда», потым у соўгасе «Банонь». У жніўні 1936 г. тав. Ігаева назначаюць начальнікам палітаддзела ў вельмі адсталы свінасоўгас імені Дзержынскага. Справа тут абстаяла з рук вон дрэнна. Ігаеў працуе днём і ноччу, выкрывае сабатажнікаў, згуртоўвае перадавых людзей соўгаса, загатаўляе корм, правярае ворыва, вядзе палітгурткі. На наступны год соўгас ужо не меў адыходу маладняка і даў многа таварнай прадукцыі. Соўгас дабіўся права ўдзельнічаць на Ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы і атрымаў тут другую прэмію. Удзельнікам выстаўкі быў зацверджан і тав. Ігаеў.

У скорасці Сямёна Сцяпанавіча выбіраюць сакратаром Копыльскага райкома партыі, затым сакратаром Слуцкага акругкома, а потым — другім сакратаром Магілеўскага абкома. За паспяховае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай урад узнагародзіў тав. Ігаева ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Насельніцтва Бабруйскай сельскай выбарчай акругі паслала яго дэпутатам у Вярхоўны Совет БССР. Ігаеў — дэпутат ад тых самых месц, дзе калісьці ён вандраваў у пошуках кавалка хлеба, дзе батрачыў у кулака Талкачова.

Выбаршчыкі Ломжынскай выбарчай акругі ведаюць, што іх кандыдат вышаў з народа, звязан з народам і змагаецца за народную справу. Ці можна параўноўваць іх кандыдата з пасламі (дэпутатамі) польскага сейма? Тыя былі выхадцамі са знаці, цураліся народа, прадавалі яго на кожным кроку.

Хто паспрабуе параўноўваць буржуазнага пасла з выхаваным партыяй большэвікоў сапраўды народным дзеячом, таму прыдзецца развесці рукамі. Параўнанне не ўдасца: нельга параўнаць непараўнальныя рэчы.

Тав. Ігаеў — верны сын партыі Леніна — Сталіна, стойкі большэвік, дастойны кандыдат у дэпутаты соцыялістычнага парламента. Акруговая выбарчая камісія Ломжынскай 599 выбарчай акругі зарэгістравала тав. Ігаева Сямёна Сцяпанавіча кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР. Няма сумнення, што выбаршчыкі Ломжынскай акругі 24 сакавіка ўсе, як адзін, аддадуць свае галасы за свайго дэпутата.

**Л. ЛЕАНІДАЎ.**

---

*Вялікія заваёвы працоўных СССР*

# Права на працу

У Канстытуцыі Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік запісана:

«Грамадзяне СССР маюць права на працу, гэта значыць права на атрыманне гарантыраванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.

Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам вытворчых сіл совецкага грамадства, ліквідацыяй магчымасці гаспадарчых крызісаў і ліквідацыяй беспрацоўя».

Права на працу — найвялікшае з правоў, заваёваных грамадзянамі СССР. Толькі ў Совецкім Саюзе, дзе пабудавана соцыялістычнае грамадства, ажыццявілася мара многіх пакаленняў аб праве на працу. Права на працу — гэта значыць, што кожнаму забяспечана работа з аплатай адпаведна колькасці і якасці затрачанай працы.

Совецкая соцыялістычная гаспадарка не ведае беспрацоўя. Ужо к 1931 году ў СССР назаўсёды было пакончана з беспрацоўем. К гэтаму часу ў краіне разгарнулася грандыёзнае будаўніцтва фабрык, заводаў, машына-трактарных станцый, жылых дамоў, бальніц, санаторыяў, дамоў культуры і г. д. Велізарная будоўля сталінскіх пяцігодак уцягнула і зараз уцягвае ў вытворчасць мільённыя масы новых рабочых. Работай забяспечана не толькі ўсё дарослае мужчынскае насельніцтва, але і жанчыны.

У нас працоўны не адчувае страху перад заўтрашнім днём. Яму не пагражаюць голад і галеча. Калі ён хоча працаваць, то работа яму заўсёды знойдзецца.

Маладое совецкае пакаленне, якое вырасла пасля Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, ведае аб беспрацоўі толькі па расказах. Само яно ніколі не перажывала жахаў беспрацоўя.

У СССР праца — не толькі **права** грамадзяніна, але і пярвейшы яго **абавязак**. У СССР існуе непахісны закон: «Хто не працуе, той не есць». Хто больш і лепш працуе, той больш зарабляе. Тунеядцы, паразіты, бяздзельнікі нічога не атрымліваюць, яны акружаны ўсеагульнай пагардай.

Працоўны чалавек у СССР у пашане. Выдатных людзей працы, людзей, якія паказваюць узоры працоўнай дысцыпліны, прадукцыйнасці, свядомых адносін да сваіх працоўных абавязкаў пазнае ўся краіна, іх акружаюць усеагульнай увагай і клопатамі. Такавы стаханаўцы, якія праславілі нашу радзіму выдатнымі рэкордамі прадукцыйнасці працы: данецкі забойшчык Аляксей Стаханаў, фрэзероўчык Іван Гудаў, каваль Бусыгін, ткачыхі Еўдакія і Марыя Вінаградавы, машыніст Пётр Крыванос, калгасніца Марыя Дземчэнка, трактарыстка Паша Ангеліна і тысячы іх прадаўжальнікаў.

Многія з стаханаўцаў займаюць цяпер пасты кіраўнікоў прадпрыемстваў, працуюць інструктарамі стаханаўскіх метадаў працы, навучаюцца ў вышэйшых навучальных установах, рыхтуюцца стаць інжынерамі. Многія выбраны дэпутатамі Вярхоўнага Совета СССР і Вярхоўных Советаў Саюзных Рэспублік.

Стаханаўцы — перадавыя людзі совецкай краіны. Яны задаюць тон у нашым грамадскім жыцці. І ў гэтым сіла совецкага грамадства.

* * *

Вызваленыя Чырвонай Арміяй ад гнёту памешчыкаў і капіталістаў былой панскай Польшчы працоўныя заходніх абласцей Украіны і Беларусі сталі поўнапраўнымі грамадзянамі СССР.

Цяпер пры совецкім ладзе працоўныя аб'еднаных з Украінскай і Беларускай ССР абласцей маюць права на працу. Гэта права гарантыравана вялікай Сталінскай Канстытуцыяй.

Да прыходу Чырвонай Арміі ў заходніх абласцях Украіны і Беларусі было звыш 200.000 беспрацоўных. Яны на працягу доўгіх год не мелі работы, жылі ў галечы, галадалі, выміралі. На радзе прадпрыемстваў, як, напрыклад, у лазнях, прачачных, рэстаранах, сталовых, гасцініцах многія труженікі працавалі па 10—14 гадзін у дзень, не атрымліваючы за гэта ніякай платы, а жылі толькі на чаявыя падачкі, што прыніжала іх чалавечую годнасць. Праца жанчыны-работніцы, як правіла, аплачвалася ніжэй працы мужчыны той-жа кваліфікацыі.

Жудасныя ўмовы жыцця і працы ўкраінцаў і беларусаў, якія насялялі былую Польшчу, ніколі не знікнуць з памяці. Гэта былі годы пакут і слёз, голада і беспрацоўя, годы прыгнёту і бяспраўя.

Гразь, смурод, духата, пыл, цесната — у такой абстаноўцы рабочыя былі вымушаны працаваць па 12—14 гадзін у дзень. Амаль ні на адным прадпрыемстве нават такога буйнага прамысловага цэнтра, як Беласток, не было сталовых, вентыляцый, лазняў, душаў, умывальнікаў, дастатковага асвятлення, не гаворачы ужо аб клубах, бальніцах, амбулаторыях, бібліятэках, дзіцячых дамах і яслях. Фабрыканты эканомілі на ацяпленні цэхаў і нават на пабудове прыбіральняў. На фабрыцы былой Сокал-Зільберфеніг, якая лічылася адной з лепшых, была ўсяго адна прыбіральня, ды і то ў двары, «каб рабочыя там не заседжваліся», як цынічна заяўлялі паны капіталісты.

На грошы, якія адлічваліся з рабочых у фонды дапамогі беспрацоўным, у фонд грамадскіх работ і на аказанне дапамогі пры страце працаздольнасці, утрымліваліся не рабочыя, а чыноўнікі, ксяндзы, паліцэйскія, жонкі афіцэраў, а таксама іншыя лакеі капіталізма.

Вось у такіх умовах жылі і працавалі працоўныя заходніх абласцей былой панскай Польшчы, якая знаходзілася пад прыгнётам памешчыкаў і капіталістаў.

Інакш і быць не магло, бо становішча чалавека у буржуазным грамадстве залежыць не ад яго працы ці асабістых здольнасцей і заслуг. Яно залежыць галоўным чынам ад яго багацця, атрыманага ў спадчыну ці набытага шляхам эксплаатацыі чужой працы.

«Другая справа — ва ўмовах совецкага ладу. Тут працоўны чалавек у пашане. Тут ён працуе не на эксплуатататараў, а на сябе, на свой клас, на грамадства. Тут працоўны чалавек не можа адчуваць сябе закінутым і адзінокім. Наадварот, працоўны чалавек адчувае сябе ў нас свабодным грамадзянінам сваёй краіны, свайго роду грамадскім дзеячом. І калі ён працуе добра і дае грамадству тое, што можа даць,— ён герой працы, ён авеян славай» (Сталін).

* * *

Назаўсёды вызваліўшыся ад памешчыкаў і капіталістаў, працоўныя заходніх абласцей Украінскай і Беларускай ССР будуюць новае шчаслівае жыццё. Яны ўпэўнены ў заўтрашнім дні. Беспрацоўе ў хуткім часе будзе канчаткова знішчана.

Узяць хоць-бы Львоўскую шакаладную фабрыку імені Кірава (у мінулым «Бранка»). Да прыходу Чырвонай Арміі гэта фабрыка працавала ў адну змену і то толькі 3—4 дні ў тыдзень. Зараз яна працуе ў тры змены, прычым замест ранейшых 400 рабочых на ёй ужо 800 чалавек.

Тое-ж самае адбываецца і ў другіх гарадах, дзе ўвялі другія і трэція змены, пусцілі ў ход раней стаяўшыя прадпрыемствы і вярнулі да работы дзесяткі тысяч чалавек.

На прадпрыемствах заходніх абласцей Украіны і Беларусі разгортваецца соцыялістычнае спаборніцтва, расце прадукцыйнасць працы, паляпшаецца матэрыяльны дабрабыт працоўных.

На табачнай фабрыцы у Вінніках уцягнена ў соцыялістычнае спаборніцтва, больш 100 рабочых, якія цяпер выконваюць па 2—3 нормы. Ініцыятар гэтага стаханаўскага руху работніца Кірылейза прэміравана дырэктарам фабрыкі 500 рублямі.

Да прыходу Чырвонай Арміі львоўскі дрожджавы завод выпускаў у месяц 35.000 кілаграмаў дрожджаў, у лістападзе 1939 года 44.000 кілаграмаў, а ў снежні—91.308 кілаграмаў. Ёсць і ўдарнікі на гэтым заводзе, як Анна Бонах, якая раней упакоўвала ў гадзіну 400—500 кілаграмаў дрожджаў, а цяпер упакоўвае 700—800 кілаграмаў.

Такіх фактаў можна прывесці многа. Іх кожны дзень адзначаюць ва ўсіх галінах гаспадаркі заходніх абласцей Украінскай ССР і Беларускай ССР. У хуткім часе гэтыя асобныя рэкорды ператворацца ў магутны стаханаўскі рух.

Працоўныя заходніх абласцей УССР і БССР, якіх зараз таксама саграваe сонца Сталінскай Канстытуцыі, могуць спакойна жыць і працаваць, цвёрда ўпэўненыя, што іх чэсная праца будзе ацэнена па заслугах і што яны будуць назаўсёды выратаваны ад беспрацоўя, ад галечы і лішэнняў.

**П. МАСКАТАЎ,**
сакратар Усесаюзнага Цэнтральнага Совета Прафесіянальных Саюзаў.

